# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Субота, 16 ліпеня 1994 года | №74 (10774) | Цана 200 руб.





■ Рэха падзеі

## "З КРЫНІЦ ТВАІХ ЖЫВУЧЫХ..."

Пазаўчора ў парку імя Янкі Купалы адбылося свята "Купалінка", прысвечанае 112-м угодкам з дня нараджэння славутага песняра, народнага паэта Беларусі. Псеўданім такі сабе Іван Дамінікавіч Луцэвіч узяў невыпадкова. З пакалення ў пакаленне пераходзіла павер"е, якое сцвярджала, што той, хто знойдзе папараць-кветку, а цвіце яна быццам адну ноч на Івана Купалу, набудзе дар чарадзея, стане празорцам і пачне разумець, пра што маўчаць трава і камень, шумяць спрадвечныя дубы і карабельныя сосны, грыміць гром і шэпча марская хваля... Такая легенда беларусаў была народнай марай аб свабодзе, без якой няма шчасця.

Знайшоў кветку хлопчык Янка, імя якой — несмяротная творчасць паэта. Аб гэтым ля помніка песняру гаварылі член Саюза пісьменнікаў рэспублікі Іван Курбека, выкладчык Беларускага педагагічнага універсітэта Мікола Шабовіч і іншыя.

Доўга над паркам гучала чароўная музыка. На гэты раз тут выступалі лаўрэаты першага нацыянальнага фестывалю гітарыстаў "Залатая горка". Зачароўвалі сваёй ігрой паэты-барды Галіна Смоляк, Андрэй Мельнікаў, Віктар Шалкевіч, Юры Гайдамакаў, Уладзімір Палупанаў, сямейнае трыо Парфенчыкаў і інш. На гэтым бы і кропку паставіць. Але шчыміць маё сэрца. Шчыміць ад таго, што не больш 100 неведвальнікаў было на гэтым свяце. Нават нікога не бачыў з тых, чыя творчая праца ўшанавана Дзяржаўнымі прэміямі імя Янкі Купалы. Не пажадалі пакланіцца таленту песняра і тыя, хто абараніў кандыдацкія і доктарскія дысертацыі на творчасці народнага песняра. Не бачыў і выкладчыкаў роднай мовы школ, вучылішчаў, ВНУ. На ганаровых месцах, падрыхтаваных загадзя, сядзелі сівенькія бабулі. Маё сыноўняе дзякуй ім за вечную любоў да прарока беларускай літаратуры. Калісьці Максім Танк у вершы, прысвечаным Я.Купалу, пісаў: "З крыніц тваіх жывучых песень мы ўсе пілі гаючы сок..."

Дык давайце ж не будзем абыходзіць такія крыніцы. Давайце ж будзем сілкавацца іх гаючым сокам!

*(Наш кар.).*

## *Сесія назначана на 20 ліпеня*

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на пасяджэнні, якое адбылося 13 ліпеня, прыняў рашэнне назначыць спецыяльную сесію парламента на 20 ліпеня. Яна адкрыецца ў 10 гадзін раніцы. У гэты дзень Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прынясе прысягу.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета прыняў да ведама заяву Савета Міністраў аб адстаўцы і даручыў яму выконваць свае абавязкі да сесіі Вярхоўнага Савета.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ХТО ЎВОЙДЗЕ Ў ПРЭЗІДЭНЦКУЮ РАЦЬ?

На пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі ў сераду Старшыня парламента Мечаслаў Грыб заявіў, што ў панядзелак, 18 ліпеня, Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка назаве яму прозвішчы будучага прэм"ера і кіраўнікоў сілавых міністэрстваў. На гэтым пасяджэнні ні сам Прэзідэнт, ні яго бліжэйшыя саратнікі не прысутнічалі. Яны вядуць інтэнсіўныя кансультацыі, у тым ліку з высокапастаўленымі прадстаўнікамі цяперашняга Савета Міністраў. Як стала вядома з крыніц, якія заслугоўваюць даверу, нягледзячы на тое, што ў апошні час у якасці кандыдата на пасаду кіраўніка ўрадавага кабінета часцей за ўсё называўся цяперашні віцэ-прэм"ер і міністр эканомікі Сяргей Лінг, шалі, здаецца, пачалі схіляцца на карысць першага віцэ-прэм"ера ва ўрадзе В.Кебіча Міхаіла Мясніковіча. Праўда, называюцца і імёны цяперашняга пасла Беларусі ў Маскве Віктара Даніленкі і былога кіраўніка Белсельбуда і віцэ-прэм"ера Аляксандра Кічкайлы.

Відаць, захавае сваю пасаду і цяперашні старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч.

У якасці магчымага міністра абароны называецца Пётр Чаус, які ўжо быў выконваючым абавязкі міністра, затым намеснікам міністра, назначаўся начальнікам будучай ваеннай акадэміі, а таксама Анатоль Кастэнка — былы камандуючы войскамі Беларускай ваеннай акругі ў часы СССР.

Прагназіруецца, што зменіцца і гаспадар МУС. Месца Уладзіміра Данько, які займае пасаду міністра ўсяго некалькі месяцаў, відаць, зойме Міхаіл Сазонаў, які пайшоў у каманду Лукашэнкі з пасады намесніка начальніка ўпраўлення МУС па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю.

Не выключана, што пойдзе ў адстаўку і старшыня КДБ Генадзь Лавіцкі, уступіўшы месца Валерыю Кезу, які раней нядоўгі час працаваў намеснікам старшыні КДБ.

Міністэрства замежных спраў можа ўзначаліць цяперашні пасол Рэспублікі Беларусь у суседняй Польшчы Георгій Таразевіч, які працаваў калісьці Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, а потым паехаў прадстаўляць беларускія інтарэсы ў суседняй краіне з пасады намесніка кіраўніка знешнепалітычнага ведамства. Паводле некаторых звестак, супрацоўнікі беларускага пасольства ў Польшчы лічаць такое назначэнне цалкам вырашанай справай.

Няясны пакуль лёс старшыні мытнага камітэта Генадзя Шкурдзя. На апошнім пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета ён павінен быў атрымаць назначэнне — Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Беларусі ў Кітайскай Народнай Рэспубліцы, а таксама ў дзвюх Карэях па сумяшчальніцтву. Аднак назначэнне не адбылося. Не спяшацца з гэтым папрасіў Аляксандр Лукашэнка.

Многіх цікавіць і тое, дзе будзе працаваць Вячаслаў Кебіч, які падаў у адстаўку. Інфармаваныя крыніцы сцвярджаюць, што ён узначаліць Беларускую канфедэрацыю прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў, у якую ўваходзяць Навукова-прамысловая асацыяцыя, Саюз прадпрымальнікаў і Саюз прадпрымальнікаў і арандатараў, а таксама Беларуска-расійскі гандлёва-фінансавы саюз.

Дажывём да панядзелка і даведаемся, наколькі дакладныя гэтыя меркаванні.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ДАПАМАЖЫЦЕ ВЫЛЕЧЫЦЬ СВЯТЛАНУ

Напэўна, гэта закон жыцця: і бяду, і радасць чалавек імкнецца раздзяліць з людзьмі. Нас прымусіла гора звярнуцца праз "Мінскую праўду" да вас, добрыя людзі. Цяжка захварэла сямігадовая Святланка, што жыве ў вёсцы Міхалёва Бярэзінскага раёна ў сям"і настаўнікаў. У дзяўчынкі лейкамія. На жаль, сёння на Беларусі нельга вылечыць гэтую хваробу.

На зварот бацькоў аб дапамозе адгукнуліся спецыялісты ЗША і Італіі. Але, каб правесці аперацыю, патрэбна 113 тысяч долараў. Неймаверная сума. Ведаем, грошы ніколі не бываюць лішнімі. Асабліва ў сённяшні складаны час. І ўсё ж мы спадзяёмся, што нашы сэрцы ніколі не ачарсцвеюць, што нашы душы не пакіне Бог, што мы не застанемся абыякавымі да чужога няшчасця.

Мы будзем удзячны ўсім вам, дарагія чытачы, хто добрымі думкамі, словамі, учынкамі падтрымае сям"ю Святланкі.

Грошы на лячэнне дзяўчынкі можна пералічыць на рахунак Н-298 г.Беразіно філіяла №2768 Аграпрамбанка на імя Кісель Святланы Васільеўны.

*Калектыў педагогаў Міхалёўскай сярэдняй школы,*

*Камітэт па справах моладзі Мінаблвыканкома.*

## НАДЗЕЙНЫЯ ПАРТНЁРЫ ВЯСКОЎЦАЎ

*Зладжаны калектыў прафесіяналаў розных спецыяльнасцей працуе ў Капыльскай райаграпрамтэхніцы. Ні на дзень не спыняецца работа ў цэхах, дзе на сучасным абсталяванні рабочыя высокай кваліфікацыі вырабляюць і рэстаўрыруюць розныя дэталі да сельскагаспадарчых машын.*

*Ва ўмовах дэфіцыту запасных частак і фінансавых сродкаў, парушэння эканамічных сувязей работнікі прадпрыемства выкарыстоўваюць кожную магчымасць, каб хутчэй выканаць заказы земляробаў, даць ім магчымасць не зніжаць аб"ёмаў вытворчасці сельгаспрадукцыі.*

***НА ЗДЫМКАХ:** інжынер-тэхнолаг Валянцін **Васілевіч** і газаэлектразваршчык Аляксандр **Русаковіч** аднаўляюць шнэкі збожжаўборачных камбайнаў; ветэран вытворчасці шліфавальшчык Уладзімір **Пукач**; слесар Іван **Радомскі** працуе на ўчастку рамонту і пакраскі легкавых аўтамабіляў.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ У люстэрку статыстыкі

## НА ШКОЛЬНЫХ АБ"ЕКТАХ – ЗАЦІШША

Заказчыкам выступала ўпраўленне капітальнага будаўніцтва Маладзечанскага гарвыканкома, падрадчыкам — БУ-169 трэста № 23. У пачатку 1992 года бакі стукнулі па руках: адзін абавязаўся поўнасцю аплачваць усе работы, а другі — здаць 72-кватэрны дом у чацвёртым квартале.

Аднак жыццё нярэдка ўносіць у нашы планы непрадбачаныя карэктывы. У заказчыка не хапіла сродкаў, і вытворчы рытм на аб"екце паволі спаў. І сёння ніхто не можа назваць дакладную дату, калі тут маладзечанцы змогуць справіць наваселлі.

Не пашанцавала і калектыву Прыямінскага раммехзавода. Па аналагічнай прычыне ПМК-165 трэста № 21 не можа завяршыць работы на 120-кватэрным доме.

Такі ж лёс напаткаў і агульнаадукацыйную школу на 264 вучнёўскія месцы ў вёсцы Пясчанка Салігорскага раёна. Узяліся за яе ў 1991 годзе. Нарматыўны тэрмін будаўніцтва — 10 месяцаў. Аднак у яго ўкладваюцца і па сённяшні дзень. Зараз мяркуецца здаць яе ў эксплуатацыю да першага верасня. Сёлета ліміт капітальных укладанняў вызначаны ў размеры 1.500 мільёнаў рублёў, у тым ліку на будаўніча-мантажныя работы — 1.275 мільёнаў. А за першае паўгоддзе выкарыстана 798 мільёнаў.

Між іншым школа будуецца за кошт чарнобыльскіх сродкаў. З-за адсутнасці фінансавання яшчэ не аплочаны выкананыя работы, пачынаючы з сакавіка.

Нястача грошай спыніла будаўніцтва школы на 620 месц ва Уздзе. Часта прыпыняюцца работы на ўзвядзенні дзіцячых садоў у саўгасе "Камсамолец" Дзяржынскага раёна, калгасе "Вішнеўка" і саўгасе "Пціч" — Мінскага. Тэрміны ўводу ў эксплуатацыю ўжо даўно прайшлі.

Падобны невясёлы малюнак і на шэрагу іншых аб"ектаў вобласці. Адсюль і такія незайздросныя вынікі.

Сёлета прадугледжваецца здаць 391,8 тысячы квадратных метраў агульнай жылой плошчы. Фактычна за паўгода ўведзена 76,7 тысячы — 20 працэнтаў гадавога плана.

Яшчэ менш — 9 працэнтаў гадавога плана (13,8 тысячы кв.м пры гадавым заданні 146,4) атрымалі жыллёва-будаўнічыя кааператывы.

Больш шпаркімі тэмпамі вядуцца работы на асобных чарнобыльскіх аб"ектах: за паўгода асвоена капітальных укладанняў 68 працэнтаў гадавога плана, а па будаўніча-мантажных работах — на 70 працэнтаў.

*Фаіна ЭЛЕНТУХ, супрацоўнік аблстатупраўлення.*

## У ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАМІСІІ ПА ВЫБАРАХ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

15 ліпеня 1994 года адбылося пасяджэнне Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, на якім разгледжаны вынікі другога тура галасавання.

На падставе пратаколаў, якія прадстаўлены абласнымі і мінскай гарадской камісіямі, устаноўлена, што ў спісы для галасавання па выбарах першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь было ўнесена 7476205 выбаршчыкаў. Прынялі ўдзел у галасаванні 5278331 чалавек, што складае 70,6 працэнта. 17193 бюлетэні прызнаны несапраўднымі.

Галасы выбаршчыкаў размеркаваліся наступным чынам: за Кебіча В.Ф. прагаласавала 748329 чалавек, або 14,17 працэнта, супраць — 4512809; за Лукашэнку А.Р. прагаласавала 4241026 чалавек, або 80,34 працэнта, супраць — 1020112.

На падставе артыкулаў 35 і 36 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" Цэнтральная камісія пастанавіла лічыць выбраным Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Лукашэнку Аляксандра Рыгоравіча.

## С "ЛЕЙКОЙ" И БЛОКНОТОМ...

Зал Минского Дома ветерана в тот день был забит до отказа. Глядя на многочисленные орденские планки на пиджаках собравшихся здесь людей, сразу чувствовалось, что 50-летие освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков для них — самое знаменательное событие. И не только для них, но и для их сыновей, дочерей, внуков.

Скажу честно, давно не приходилось бывать на мероприятии, где бы всем присутствующим дарили цветы. Стоит ли говорить, насколько приятен был ветеранам, пришедшим на встречу с фронтовыми журналистами и редакторами разных поколений, такой знак внимания.

Аплодисментами приветствовали собравшиеся и решение Союза журналистов Республики Беларусь о выделении ветеранам 5 миллионов рублей. Как заметил председатель Союза Л.Екель, сумма по нынешним временам невелика, но, как говорится, чем богаты...

Около трех часов длилось торжество. Фронтовики рассказывали о своей юности, работе в различных печатных изданиях.

Так, Нина Викентьевна Павловская, выпускница Минского архитектурно-строительного техникума, в сентябре сорок первого создавала подпольную организацию в деревне Ульяновичи. Затем боролась с фашистами в составе Сенненской партизанской бригады. В сорок втором году входила в созданную здесь же женскую диверсионную группу. С тремя орденами Отечественной войны встретила Нина Викентьевна Победу сорок пятого. Тридцать лет мирной жизни отдала потом журналистике.

Роман Алексеевич Ерохин девятиклассником добровольно ушел на фронт. Участвовал в битве на Курской дуге. Был тяжело ранен. После войны тридцать лет работал редактором художественной литературы "Белгосиздата". Трудился в газете "Советская Белоруссия".

Михаил Липович Минкович в огненные годы войны был направлен на Дальний Восток. Работал в армейской газете "Ши-хуа-бао", издаваемой для китайского населения. В сорок четвертом по демобилизации вернулся в освобожденный Минск.

Именно этим людям одним из первых в республике были вручены в тот вечер журналистские билеты нового образца.

Я поинтересовался у своего коллеги Сергея Елисеевича Свиридова, в годину испытаний работавшего в газете "Красноармейская правда" (ныне "Во славу Родины"), помнит ли он свой первый материал о войне?

— Конечно, — улыбнулся Сергей Елисеевич. — Материал мой был о капитане, фамилию уже и не вспомню, который под бомбежкой сумел поднять свой самолет с аэродрома и сбить фашистского стервятника.

Немало материалов о войне было написано и Яковом Иосифовичем Качаном. Вместе с партизанами из соединения генерал-майора Ф.Капусты ходил он в рейды, сидел в засадах. Об этом и писал Яков Иосифович в антифашистской газете "Молодой партизан".

— Частенько моя фамилия на ее страницах мелькала, — смеется ветеран. — Бойцы даже путать нас с генералом стали. Фамилии-то у обоих "огородные". Тогда командир соединения и решил сделаться товарищем Костенко. И от фашистов какая-никакая конспирация...

О многом интересном можно было еще поговорить с ветеранами в тот вечер, да его праздничная часть заставила на время забыть о воспоминаниях. На сцену вышел эстрадно-симфонический оркестр под управлением В.Цатурова. Песни в исполнении Аллы Хазовой, Ольги Патрий воистину дарили радость сидящим в зале. А программа ведущего солиста белорусского Государственного театра музыкальной комедии А.Исаева "Любовь и разлука" просто вызвала восторг: старинные романсы, льющиеся со сцены, не могли не тронуть вечно молодые сердца убеленных сединами ветеранов. В завершение концерта главный редактор газеты "Во славу Родины" полковник Г.Соколовский прочитал собравшимся стихи из своего нового поэтического сборника "Афганская тетрадь".

Лишь к десяти часам вечера Дом ветерана опустел. Люди покидали его с улыбками на лицах.

*Александр МАКАРОВ.*

## Будслаўскі касцёл — святыня Беларусі

Так назваў сваю кнігу ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк. Яе ахвотна набывалі вернікі, прыбыўшыя на свята Божай маці Будслаўскай, якое традыцыйна праводзіцца 2 ліпеня. Менавіта ў гэты дзень, па старажытнаму паданню, яе светлае аблічча з"явілася людзям з абяцаннем заступніцтва перад Богам.

На свята Маці Божай прыбылі дзесяткі груп пілігрымаў, пасланцоў рэлігійных канфесій блізкага і далёкага замежжа. Усіх перад касцёлам урачыста віталі святары, затым паломнікаў запрашалі ў касцёл, дзе яны складалі ахвяраванні апякунцы — Божай Маці Будслаўскай.

Паломнікі прыбывалі напярэдадні свята цэлую ноч, многія ішлі пешшу, з малітвамі і спевамі. Падобнага свята не было ў Будславе добрых паўстагоддзя.

Вяртанне да Бога — адна з прыкмет нашага часу. Няхай жа растопіць яно лёд чалавечых сэрцаў, пасее ў іх дабрыню і надзею на выратаванне.

*Марыя КУЗАЎКІНА*

■ Ну і ну

## ПРАГАНЯЙЦЕ СМАГУ... "САРАКАГРАДУСНАЙ"

**Апошнім часам усталявалася спякотнае надвор'е. У дзень ртутны слупок тэрмометра часам перавышае адзнаку 30 градусаў. Вяскоўцы ў такую спякоту праганяюць смагу "бярозавікам", ці квасам. А гараджанам даводзіцца спадзявацца на мясцовы гандаль.**

Для барысаўчан, здавалася б, не павінна быць праблемы, чым прагнаць смагу. Паколькі на мясцовым заводзе безалкагольных напіткаў вырабляецца іх некалькі відаў, а таксама мінеральная вада і хлебны квас. Тым не менш, праблема тут існуе. І часам ствараецца, што называецца, на голым месцы з-за неразваротлівасці асобных гандлёвых работнікаў. У гэтым пераканаўся карэспандэнт, пабываўшы ў густанаселеных раёнах горада.

На вакзалах заўсёды мнагалюдна, а ў летні перыяд кольксць пасажыраў узрастае ў некалькі разоў. Раней на аўтавакзале з пітвом не было ніякіх праблем. У кафэ і ларках прадаваліся сокі, напіткі, "мінералка". На прывакзальнай плошчы заўсёды стаяла бочка з квасам, працавалі аўтаматы з "газіроўкай". А вось у той гарачы поўдзень нічога з прахаладжальных напіткаў не было. Толькі ў ларку №9 трэста сталовых і рэстаранаў стаяла "Фіеста" па 3,5 тысячы рублёў за бутэльку. А вітрыну ларка №6 ад магазіна №7 "упрыгожвалі" саракаградусныя настойкі. Прадаўшчыцы абодвух ларкоў запэўнівалі, што пасля выбараў ні напіткі, ні "мінералка" не завозіліся. У дарожным кафэ можна было папіць гарачай кавы. Загадчыца А.Лапо паабяцала ў бліжэйшы час папраравіць становішча.

Бочка з квасам на прывакзальнай плошчы сёлета пакуль не з'яўлялася. Аказваецца, гэтая гандлёвая кропка належыць гастраному №7. Калектыў якога аддзяліўся ад гархарчгандлю і самастойна вырашае ўсе свае пытанні. Мы спадзяваліся, што пасля прыватызацыі гандлю палепшыцца становішча, а выходзіць, наадварот. Відаць, кіраўніцтва магазіна не надта жадае абцяжарваць сябе дадатковымі клопатамі, каб забяспечыць людзей квасам. Выручку лягчэй кампенсаваць некалькімі скрынкамі зялёнага "змія". Дарэчы, па такому шляху пайшоў і магазін №2, які таксама стаў самастойным і перастаў прадаваць квас. У той дзень не ўдалося папіць гэтага прахаладжальнага напітку і ў іншых месцах горада, бо на заводзе сапсаваўся кампрэсар для яго ахалоджвання. Назаўтра, каля магазіна №8 давялося прастаяць у чарзе за куфлем квасу амаль паўгадзіны.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

*г. Барысаў.*

## ЦЭНЫ МЯНЯЦЦА НЕ БУДУЦЬ?

Стрымліванне цэн напярэдадні выбараў адыграла не апошнюю ролю ў распаўсюджванні чутак пра магчымае падаражанне тавараў і прадуктаў. Масла ў агонь тут падлілі і самі работнікі гандлю, закрываючы на перападлік шэраг штучных аддзелаў ці на сандзень некаторыя магазіны. Тым больш, што на прэс-канферэнцыі для журналістаў першы Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка заявіў, што бюджэт вычарпаны і яго непакоіць магчымы рост цэн. Але, як запэўнілі карэспандэнта Белінфарма ў Дэпартаменце цэн пры Міністэрстве эканомікі, у бліжэйшы час цэны на харчовыя тавары мяняцца не будуць.

*БЕЛІНФАРМ.*

## УБИТ УЧАСТКОВЫЙ

13 июля в двух километрах от д. Кострица Борисовского района в кювете найдена автомашина ИЖ-2715, в которой с тремя пулевыми ренениями грудной клетки обнаружен труп участкового инспектора милиции Крупского РОВД Володина. Исчез пистолет Макарова и обойма с патронами к нему. УВД Миноблисполкома мобилизованы значительные силы на раскрытие данного преступления и поимку преступника.

*Виктор Быков, сотрудник пресс-группы УВД облисполкома.*

